Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 270
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 13 кастрычніка 1998 г. № 109 (501) Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### 1999-ты будзе «годам дысцыпліны»?

**Чакаецца, што бліжэйшым часам прэзідэнт Беларусі падпіша дэкрэт аб дысцыпліне.**

Пра гэта Аляксандр Лукашэнка паведаміў падчас свайго рабочага візіту ў Магілёўскую вобласць, дзе ён знаёміўся з ходам завяршэння ўборкі ўраджаю. На думку кіраўніка дзяржавы, неабходнасць у такім дакуменце наспела даўно, паколькі ніякія рэформы і кадравыя перастаноўкі на месцах не прынясуць эфекту без выканання строгай дысцыпліны.

*«Да 1 студзеня мы яго падпішам, — сказаў А.Лукашэнка. — Сёння сітуацыя склалася такая, што яго можна ўводзіць. Вы не думайце, што ўсё так проста. У гаспадарцы я працаваў, ведаў, што сам сабе гаспадар. У краіне ж трэба ўвесь час пагладаць, што вакол...»*

БелаПАН

### Міністр едзе ў Азію



**Сёння міністр замежных справаў Іван Антановіч пачынае чарговы 8-дзённы вояж.**

Спачатку ён наведае Індыю, а потым накіруецца адтуль у Турцыю. Учора ў прэс-службе міністэрства замежных справаў яшчэ не мелі дакладнай праграмы візіту, падчас якіх плануецца *«абмеркаванне перспектываў пашырэння двухбаковага супрацоўніцтва»*.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Беларусы паехалі ў Ватыкан

**Учора каталіцкія вернікі з Беларусі ўпершыню накіраваліся ў Рым і Ватыкан. Узначальвае паломнікаў кардынал Казімір Свёнтак.**

358 пілігрымаў выехалі з Гродзенскай вобласці, сярод іх — 14 ксяндзоў і 6 манашак. Яны сустрэнуцца з астатнімі беларускімі вернікамі ў польскім горадзе Чэнстахова. Іх далейшы маршрут пралягае праз г.Брно ў Чэхію, Вену і Венецыю. Паломнікі наведаюць таксама кляштар у Монтэ-Касіна (там знаходзяцца магілі, дзе пахавана нямала беларусаў, якія ваявалі ў арміі генерала Андэрса).



*Кардынал Казімір Свёнтак.*

16 кастрычніка спаўняецца 20 гадоў з таго часу, калі Ян Павел II быў выбраны Рымскім Папам. 18 кастрычніка ён адправіць урачыстае набажэнства на пляцы св. Пятра разам з кардыналамі з усяго свету. На гэтай урачыстасці будуць прысутнічаць і вернікі з Беларусі. А напярэдадні яны будуць мець аўдыенцыю ў Папы, для якога падрыхтавалі падарунак — копію абраза Маці Божай Будслаўскай.

**Інга БАЗЫЛЕВІЧ**



***Звычайны алей стаў для многіх беларусаў далікатэсным прадуктам — па цане ён не кожнаму даступны.***

## Прэзідэнт шукае масла

**Сёння Аляксандр Лукашэнка плануе заняцца пошукамі сметанковага масла. Прэзідэнт збіраецца наведаць мінскі халадакамбінат № 1, каб палюбавацца на запасы гэтага прадукту. Аднак у мінскіх крамах масла, як і раней, купіць вельмі складана.**

Днямі ў міністэрстве гандлю нам паабяцалі, што масла ўсім хопіць, яно, маўляў, паступіла ў крамы, але *«зацягнуўся працэс адтавання»*. Час ідзе, і складваецца ўражанне, што масла на самой справе «растала». Паводле нашых звестак, прычына дэфіцыту ў тым, што вялікія аб'ёмы масла цяпер пастаўляюцца ў Расію ў якасці разліковай валюты за газ.

Ужо з мінулага тыдня на мінскім холадакамбінаце № 1 пачалі наводзіць марафет, каб належным чынам сустрэць прэзідэнта Лукашэнку. Як былы кіраўнік саўгаса, ён добра разумее, дзе трэба шукаць масла. Дырэктар камбіната Таццяна Секалюк нам сказала, што ў ледоўнях прадпрыемства назапашана масла да 1 красавіка будучага года. Цяпер тут ляжыць 2,5 тысячы тон гэтага прадукту. Масла сюды прывозяць з усёй краіны, аднак у чацвёртым квартале не запланавана ніякіх новых паставак. *«Масла — сезонны прадукт»*, — сказала Т.Секалюк.

Яна таксама паведаміла, што дзённая норма паставак масла ў сталічны гандаль складае 20 тон. У пятніцу—нядзелю давалі ў крамы ад 32,5 да 26 тон. Больш даць немагчыма, інакш запасы хутка скончацца. Вытворцы раяць падняць цану на масла і такім чынам затрымаць яго на паліцах. Дарэчы, у выхадныя дні масла прадавалі ўжо па новай цане — 128.800 рублёў за кілаграм. Тым не менш яго шпарка раскупілі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Войска чакае навабранцаў

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб чарговым прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу ў лістападзе—снежні 1998 г. і студзені 1999 г. Плануецца прызваць каля 18 тысяч хлопцаў.

*БелаПАН*

### Сталіца інтэграцыі – Смаленск

**Цэнтрам аб'яднання народаў Беларусі і Расіі можа стаць расійскі горад Смаленск. Такую думку выказаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з губернатарам Смаленскай вобласці Аляксандрам Прохаравым, якая адбылася 8 кастрычніка.**

Адказваючы на пытанні расійскіх журналістаў, прэзідэнт Беларусі пракаментаваў становішча ў РФ наступным чынам: *«Няма ў Расіі эканамічнага крызісу, няма там прычынаў для крызісу. Заводы стаяць, людзі галодныя, людзі раздзетыя, і ў нас гэтага гора хапае. Ну, дык давайце аднавім усё... Які крызіс? Я не разумею. Які крызіс, там сабралася даволі вялікая частка жулля і не даюць працаваць ні новаму ўраду, ні прэзідэнту. Дык давайце ўвесь гэты накіп скінем і пачнём працаваць. І вы пагладзіце — няма ніякага крызісу».*

*БелаПАН*

### Долар усё вышэй

**Апошнімі днямі курс долара на «чорным рынку» Беларусі няспынна падвышаўся.**

Калі напачатку мінулага тыдня за амерыканскі долар «валютчыкі» давалі ў сярэднім 115 тысяч беларускіх рублёў, то ўжо ў мінулую нядзелю гэтая лічба павялічылася да 125 тысяч. Самі «валютчыкі» вельмі неахвотна прадаюць долары па 135-140 тысяч рублёў. Яны мяркуюць, што курс будзе расці і далей, як мінімум —да 150—160 тысяч беларускіх рублёў за долар.

Тым часам у абменных пунктах камерцыйных банкаў курс долара складае 75.000—76.000 рублёў. Але марна спадзявацца набыць долары па такой цане — ніводнага долара ў касах «абменнікаў» няма.

Дарэчы, як паведамляе агенцтва БелаПАН, курс продажу долара за безнаяўныя рублі апошнім часам вагаецца ў межах 220—260 тысяч рублёў.

**Міхась КАРПОВІЧ**



### *Пагроза*

***Прэзідэнт Лукашэнка ў чарговы раз заявіў аб гатоўнасці Беларусі аказаць Югаславіі дапамогу «самай сучаснай зброяй».***

### *Тэлеграма*

***Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг накіраваў урадавую тэлеграму старшыням абласных і раённых выканкамаў, а таксама кіраўнікам гаспадарак з патрабаваннем тэрмінова завяршыць уборку ўраджаю.***

### *Даўгі*

***Беларусь сёння павінна Расіі за газ 234 мільёны долараў, за нафту — звыш 160 млн. долараў. Такія лічбы паведаміў віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў.***

### *Пагадненні*

***Паміж урадамі Беларусі і Украіны падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне інфармацыі. Як мяркуе старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны, цяпер будзе больш магчымасцяў данесці ўкраінцам «праўдзівую інфармацыю» пра жыццё беларусаў.***

### *Энергетыка*

***15—16 кастрычніка ў Акадэміі навук адбудзецца паседжанне Урадавай камісіі па ацэнцы мэтазгоднасці развіцця атамнай энергетыкі ў Беларусі, а іменна — будаўніцтва АЭС. Камісія была створаная 31 сакавіка г.г. і павінна даць сваё заключэнне да 31 снежня.***

### *Кошты*

***З 8 кастрычніка ў Беларусі на 10 працэнтаў падвышаныя цэны на белую гарэлку. Цяпер паўлітровая бутэлька, напрыклад, «Белай Русі» каштуе 93.700 рублёў.***

### Фронту дазволілі святкаваць

**Мінскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне мерапрыемстваў, якімі БНФ пачне адзначаць сваё дзесяцігоддзе.**

Першая акцыя пройдзе на вуліцы: 18 кастрычніка ў 13 гадзінаў на сталічнай плошчы Якуба Коласа пачнецца святочны «марафон», які будзе доўжыцца чатыры гадзіны. На наступны дзень кіраўніцтва і актывісты Фронту, а таксама госці збяруцца ў памяшканні Палаца культуры тонкасуконнага камбіната, дзе адбудзецца ўрачыстае паседжанне і канцэрт.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Лукашэнка не плаціць за электраэнергію

**Аляксандр Лукашэнка завінаваціўся 123 мільёны рублёў за электраэнергію.**

Але гутарка ідзе не пра «ўсенароднаабранага», а пра А.Лукашэнку з пасёлка Камаровічы Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1994 г. тут пабудавалі дамы для перасяленцаў з чарнобыльскіх раёнаў. Жыллё меркавалася зрабіць па еўрапейскіх стандартах, у прыватнасці, каб у кожным доме была індывідуальная электраўстаноўка для нагрэву вады. Але нашыя разумнікі дадумаліся паставіць у хатах награвальнікі вады, якія выкарыстоўваюцца... у кароўніках. Яны вельмі энергаёмкія, маюць магутнасць у 18 кілават.

Як паведамілі мне ў горацкім райэнерганаглядзе, з 1994 года ў ахвяраў гэтага эксперыменту растуць шалёныя даўгі за святло. Адным з даўжнікоў з'яўляецца і Аляксандр Лукашэнка. Ёсць свае чэмпіёны, якія набралі за прайшоўшую пяцігодку па 180 мільёнаў рублёў і вышэй. Усяго «каровінымі» ўстаноўкамі карыстаецца 31 сям'я. Агульная сума іх запазычанасці ўжо перавышае 2,5 мільярда рублёў.

Натуральна, што ніхто з камароўцаў нічога не плаціць, бо такіх шалёных грошай у людзей няма. Як сведчыць начальнік райэнерганагляду Міхаіл Азаронкаў, увесь час з 1994 года яны звярталіся да раённых, абласных уладаў, пісалі ў міністэрствы. Неабходна як мінімум пракласці цеплатрасу ад кацельнай да пасёлка. Выдаткі акупяцца за 3 (!) месяцы. Але звароты пакуль безвыніковыя.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*10 кастрычніка адзначаўся Міжнародны дзень псіхічнага здароўя. Ёсць нагода пагаварыць пра псіхічны стан нашага грамадства*

# Калі жыць не хочацца...




Ранейшая сістэма псіхіятрычнай дапамогі была далёкай ад ідэалу, але замест яе мы зараз не маем увогуле нічога. Наркаманы, алкаголікі, людзі з неўрозамі і псіхозамі прадастаўленыя, па сутнасці, самім сабе. Лячэнне, напрыклад, алкаголіка заключаецца ў тым, што раз у квартал яго выклікаюць да ўчастковага нарколага і праводзяць прафілактычную гутарку. Амаль няма лекаў, бо фінансаванне зусім слабенькае. Наркаманам яшчэ горш: калі здарыўся «перабор» дозы і не хочацца «свяціцца», трэба плаціць вялікія грошы. За «зялёныя» вас адкачаюць прама дома і з прымяненнем самых сучасных прэпаратаў.

Цяпер, калі прывычнае жыццё разбурылася, мноства людзей, трапіўшы ў новую сітуацыю, не знаходзяць выйсця і ў роспачы апускаюць рукі. Як вынік: зыход у п'янства, наркаманію, рост псіхозаў, самагубстваў, агульнае азлабленне, агрэсіўнасць, злачыннасць, псіхічныя псеўдарэлігійныя эпідэміі і г.д.

### Суіцыд

Калі жыццё канчаткова заблыталася і надзей не засталося, чалавек, фігуральна кажучы, лезе ў пятлю. Самазабойства, як спосаб вырашэння ўласных праблемаў, выходзіць на другое-трэцяе месца ў структуры агульнай смяротнасці людзей ва ўзросце 15—35 гадоў.

Некалі псіхіятры лічылі схільнасць да самазабойства найбольш сур'ёзным з сімптомаў шызафрэніі. Сёння ўсё спрасцілася: суіцыдальную спробу ажыццяўляюць 80 працэнтаў псіхічна здаровых людзей. Не патрабуе грунтоўных доказаў той факт, што характар праблемы самагубстваў — сацыяльны. Сувязь палітычных і эканамічных падзеяў з псіхалагічным здароўем — навідавоку. Чалавек застаецца сам-насам са сваімі праблемамі і перажываннямі, часта не маючы падтрымкі нават ад сям'і. Вынік — развітанне з жыццём.

Па дадзеных рэспубліканскага бюро судмедэкспертызы, у 1997 годзе па Мінскай вобласці зарэгістравана 722 самазабойствы альбо 45,8 на 100 тысяч насельніцтва (у Мінску — 22,6). Сусветны лідэр — Венгрыя, дзе на 100 тысяч насельніцтва прыпадае 50 самагубстваў. Але ў Венгрыі створана і дзейнічае праграма прафілактыкі, і колькасць суіцыдаў там пачала змяншацца. У Беларусі колькасць самагубстваў з 1990 года ўзрасла ўдвая.

Трэба сказаць, што спробы самагубстваў сустракаюцца ў 10—20 разоў часцей, чым уласна поўны разлік з жыццём. Гэта значыць адно: патрэбная сістэма дапамогі такім людзям. Скажам, у суседняй Расіі існуюць хаця б тэлефоны даверу, пакоі сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі, крызісныя цэнтры, дзе вас проста могуць адгаварыць ад апошняга кроку.

У нас, па сутнасці, нічога гэтага няма. Калі не лічыць псіханеўралагічнага аддзялення з «крызіснымі» ложкамі пры мінскай бальніцы хуткай дапамогі. Туды звычайна трапляюць пацыенты з таксікалогіі (90 працэнтаў самазабойстваў ажыццяўляюцца шляхам атручвання). Можна сюды трапіць і па накіраванні ад гарадскіх псіхатэрапеўтаў. Вось, практычна, і ўся дапамога. Патэнцыяльныя самазабойцы астатняй Беларусі будуць і далей хадзіць па лязу брытвы.

### Памежны стан грамадства

А колькі грамадзянаў Беларусі знаходзяцца на мяжы псіхічна-нервовых расстройстваў — паміж нормай і ненормай? На гэты конт існуюць розныя меркаванні, у тым ліку, сярод спецыялістаў. Даводзілася чуць нават пра тое, што палова насельніцтва церпіць на памежныя станы. Шчыра кажучы, гаварыць аб дакладных лічбах сэнсу няма, бо няма дакладнай статыстыкі.

Ёсць толькі ўскосныя дадзеныя. Напрыклад, праводзілася комплекснае медыцынскае абследаванне 6.070 жыхароў Віцебска і вобласці ў параўнанні з вынікамі абследавання 3.500 перасяленцаў і ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Вось што атрымалася: колькасць людзей, якія маюць памежныя нервова-псіхічныя расстройствы, у першай групе — да 35 працэнтаў, у другой — да 42%.

Не трэба, канешне ж, прымаць гэтыя лічбы за абсалютныя, але характэрна, што многія медыкі гавораць якраз аб 30—40 працэнтах «памежнікаў». Трагізм становішча ў тым, што сістэма дапамогі такім людзям, мякка кажучы, недастатковая. Напрыклад, ці сустракалі вы ў сельскай пасялковай бальніцы псіхіятра? І я не сустракаў.

Паэтычны радок Аляксандра Пушкіна «не дай мне Бог сойти с ума, уж лучше посох и сума...» набывае для грамадзянаў Беларусі вельмі актуальнае гучанне. У сённяшняй сітуацыі многіх чакаюць якраз гэтыя два шляхі: альбо «сойти с ума», альбо «посох и сума».

**Андрэй СЯРЖАН**

## На дзве вакансіі 42 прэтэндэнты

*Двух дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання прымуць у прэзідэнцкі парламент*

Ніжняя палата ўжо прыняла адпаведны закон: «Аб уключэнні ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, якія падалі заяву аб жаданні працаваць у Палаце прадстаўнікоў, але не ўвайшлі ў яе склад».

Праблема, аднак, у тым, што ў ніжняй палаце Нацыянальнага сходу цяпер ёсць усяго дзве вакансіі, яны з'явіліся пасля гібелі Яўгена Мікалуцкага восенню мінулага года і Мікалая Шыманскага, які памёр у тым жа годзе. На гэтыя вакансіі прэтэндуюць 42 чалавекі. Якім чынам будзе праводзіцца адбор кандыдатаў, пакуль невядома, паколькі вышэйназваны закон гэтага не вызначае.

**Ю.П.**

## Старавойтаву рыхтуюць новую камеру

**Па звестках з бабруйскай турмы, там рыхтуецца спецыяльная камера для Васіля Старавойтава.**

Зараз двойчы герой сацыялістычнай працы, былы кіраўнік «Рассвета» знаходзіцца ў следчым ізалятары КДБ, куды ён быў змешчаны ў лістападзе мінулага года. Пракуратура неаднаразова заяўляла, што следства па справе Старавойтава набліжаецца да завяршэння, аднак дзе і калі пачнецца судовы працэс — не паведамлялася.

Мяркуючы па тым, што камеру для Старавойтава рыхтуюць у бабруйскай турме, то суд над ім адбудзецца альбо ў Бабруйску, альбо ў Кіраўску. У любым выпадку працэсу не варта чакаць у Мінску, дзе ён сабраў бы куды больш публікі і журналістаў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Прапаршчыку не пашанцавала

**У Літве з кантрабанднай гарэлкай затрыманы прапаршчык узброеных сілаў Беларусі**

Яго затрымалі супрацоўнікі літоўскага пагранпаста Шальчынінкай. Беларускі прапаршчык Іван Л. задэклараваў тры паўлітровыя бутэлькі гарэлкі і адну бутэльку шампанскага. Аднак пад капотам яго аўтамабіля *Mercedes Benz* мытнікі знайшлі яшчэ 33 паўлітровыя бутэлькі гарэлкі розных найменняў. Аўтамабіль і гарэлка канфіскаваныя, акрамя таго, Івану Л. пагражае штраф у памеры ад 5 да 50 тысяч літаў.

*БелаПАН*

## Сямёнава вярнулі ў калонію

**Нядоўга знаходзіўся на волі Уладзімір Сямёнаў, былы кіраўнік магілёўскага акцыянернага таварыства «Магатэкс». Рашэннем Кастрычніцкага раённага суда ён зноў накіраваны ў калонію.**

Наша газета паведамляла, што вызваленне Сямёнава было ўмоўна-датэрміновым. Два месяцы Сямёнаў прабыў на волі. За гэты час пракуратура знайшла, што былога дырэктара вызвалілі незаконна. Праўда, зачэпкі падаюцца ў значнай ступені штучнымі. Так, дакументы на датэрміновае вызваленне падпісваў непасрэдна кіраўнік Кастрычніцкага райвыканкама, а павінен быў падпісаць старшыня назіральнай камісіі пры райвыканкаме.

У час, калі суд разглядаў справу аб вяртанні Сямёнава ў калонію, ён лячыўся ў бальніцы — пасля трох з лішнім гадоў турмы ў 60-гадовага чалавека было што лячыць. Нягледзячы на гэта, яго забралі з бальнічнай палаты і этапіравалі за краты. На момант датэрміновага вызвалення Сямёнаву заставалася яшчэ крыху больш за 4 месяцы да сканчэння тэрміну.

Як паведаміў карэспандэнту газеты намеснік пракурора Кастрычніцкага раёна Магілёва, *«гэтыя 4 месяцы Сямёнаў праўдзе за кратамі. Ніхто зноў разглядаць пытанне аб вызваленні гэтага чалавека не будзе»*. Відавочна, што ў гэтай справе ёсць падаплёка. Аднак намеснік пракурора на гэтую тэму гаварыць не захацеў: *«Што вы ў мяне пытаецеся? Нават калі ёсць такая падаплёка, я вам нічога не скажу...»*

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Вторая

*Белорусский государственный оркестр под руководством «батьки» исполняет вариации на югославскую тему в местечковой интерпретации. Не очень талантливо, но очень громко*

**ПО СОБЫТИЯМ** вокруг Югославии А.Лукашенко успел сделать уже два заявления для прессы. Оба выдержаны в угрожающем тоне — но уж второе и вовсе вышло донельзя агрессивным. *«Они уже распоясались до крайности, эти господа, когда Советский Союз исчез!»* — возмутился Лукашенко, и предрек благополучной старушке-Европе и Америке, что, если натовский удар состоится, *«это вовлечет их в такую бойню, что будет жарко всему Западу»*. В этот пожар Лукашенко пообещал подбросить и собственных дровишек. С самого начала белорусский «батька» сказал, что готов оказать Югославии *«всяческую помощь, в том числе военную»* (кроме посылки туда белорусских солдат). Во втором заявлении формулировка была конкретизирована: предоставить он готов *«самое современное оружие»*, да и вообще *«всё, что они скажут, что им необходимо»*. Походя Лукашенко лягнул Б.Клинтона, объяснив ситуацию с Югославией и *NATO* стремлением *«решить какую-то сексуальную проблему»*.

**МИНИСТЕРСТВО** иностранных дел Беларуси разослало по СМИ забавный пресс-релиз. В нем рассказывается о том, как на первое заявление А.Лукашенко отреагировали в Югославии. Там оно расценено, по сообщению белорусского МИД, *«как самый мощный психологический фактор моральной поддержки, который когда-либо имели народы Югославии»*.

Сильно сказано. Выходит, за всю историю существования сербов и черногорцев — с древности до новейших времен — никто их, бедных, не поддерживал так мощно, как Лукашенко. И кто же настолько высоко оценил историческую роль Лукашенко на Балканах? Сами югославы? Но наш МИД, излагая столь хвалебную оценку, не делает на них ссылки. Такую превосходную характеристику «батькиному» заявлению ведомство Антоновича дает самостоятельно. Правильно — как говорится, «сам себя не похвалишь — ходишь как оплеванный».

Вообще, никаких цитат из югославских официальных источников в документе нашего министерства не приводится — за исключением одной фразы тамошнего мидовского клерка (который, кстати, высказался значительно сдержаннее). Зато делается ссылка на *«сотни звонков»*, которые сотрудники белорусского посольства *«ежедневно принимают»* от югославов (да уж, следуя за версией МИД, в таком случае можно только посочувствовать посольским работникам — у них в эти дни «запарка»). И во время этих звонков чего только ни болтают *«рядовые граждане»*! Если верить сообщению питомцев Антоновича, то величают Лукашенко не иначе как *«национальным героем Сербии»*, превозносят до небес и восторгаются взахлеб: *«Существует народ и Президент государства, которые первые однозначно высказались в поддержку братьев-славян. Мы воодушевлены, что в тотальном мире бесправия, беспринципности и бесконечных угроз появилась надежда на будущее»*.

Во как витиевато высказываются *«рядовые граждане»*! А что три слова подряд начинаются на *«бес-»* — это зашифрованный намек на бесовскую сущность Запада или же стилистическая особенность сербскохорватского языка? Как говаривал персонаж популярного фильма, «меня терзают смутные сомнения». Не является ли выспренность этой «цитаты» плодом дурного вкуса мидовских борзописцев?

В самом деле, ссылаться на «ежедневные сотни звонков» очень удобно: это как «письма трудящихся» в советские времена — невозможно проверить. Но поверить тоже невозможно. Многие ли из вас, уважаемые

*Украіна*

# Кучма не хоча ў саюз

**Негатыўнае стаўленне адносна далучэння Украіны да беларуска-расійскага саюза зноў выказаў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма.**

Каменціруючы прапанову старшыні расійскай Дзяржаумы Генадзя Селязнёва аб неабходнасці стварэння саюза трох славянскіх дзяржаў, Л.Кучма падкрэсліў, што саюз Беларусі і Расіі *«абсалютна не працуе»*. *«У іх няма ні адзінай валюты, ні адзіных законаў»*, — канстатаваў ён. Украіна *«атрымала свой апошні шанц зберагчы сваю незалежнасць, і мы павінны яго выкарыстаць»*, — адзначыў прэзідэнт Украіны. *«Чаму маленькія краіны былой Югаславіі змагаюцца за сваю незалежнасць, а ў нас народ настальгуе па Саюзе?»* — задаў рытарычнае пытанне Л.Кучма і дадаў: — *Потым нам скажуць: давайце пасылайце вашых хлопцаў у Таджыкістан і на Каўказ».*

У той жа час Л.Кучма даволі песімістычна ацаніў цяперашні ўзровень украінска-расійскіх адносінаў. Украіна пастаянна прапаноўвае Расіі *«самыя ліберальныя адносіны ў эканоміцы»*, *«аднак мы іх не маем»*, адзначыў прэзідэнт. Па яго словах, цэны на нафту і газ апошнім часам у свеце зменшыліся ў 2—3 разы, але Украіна змушана купляць гэтыя энерганосьбіты ў Расіі па старых сусветных цэнах, паколькі *«больш іх купіць няма ў каго»*.

*УНІАН—БелаПАН*



*Леанід Кучма.*

*Азербайджан*

# Другі тэрмін Гейдара Аліева

**У мінулую нядзелю ў Азербайджане прайшлі прэзідэнцкія выбары. У галасаванні ўзялі ўдзел больш за дзве трэці выбаршчыкаў. Канчатковых вынікаў пакуль няма, але відавочна, што прэзідэнцкае крэсла яшчэ пяць гадоў будзе займаць Гейдар Аліеў.**

*«Я веру ў сваю перамогу і лічу, што буду дастойным прэзідэнтам»*, — заявіў 75-гадовы Гейдар Аліеў журналістам на выбарчым участку, куды ён прыйшоў галасаваць.

Па словах Аліева, галоўнай ягонай задачай пасля выбараў стане ўзмацненне дэмакратыі ў краіне, эканамічны ўздым і палітычнае вырашэнне Карабахскага канфлікту з Арменіяй. Як вядома, Нагорны Карабах тэрытарыяльна належыць Азербайджану, але большасць насельніцтва ў Карабаху — армяне, таму вось ужо больш дзесяці гадоў Арменія спрабуе адваяваць у Азербайджана частку тэрыторыі.

Сёлета напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Азербайджане адбываліся шматлікія сутыкненні паміж апазіцыяй і сіламі правапарадку. Апазіцыя небеспадстаўна абвінавачвае Гейдара Аліева ў дыктатуры і нават заклікала да байкоту прэзідэнцкіх выбараў — з-за няроўных умоваў для кандыдатаў у прэзідэнты. Акрамя таго, выбарчая камісія складаецца ў асноўным з бліжэйшых саратнікаў Аліева. У такіх умовах, лічаць апазіцыянеры, перамога Аліеву забяспечаная.

Гейдар Аліеў стаў прэзідэнтам Азербайджана пяць гадоў таму ў выніку дзяржаўнага перавароту. У савецкія часы ён шмат гадоў узначальваў КДБ Азербайджанскай ССР, потым стаў першым сакратаром кампартыі рэспублікі і ўваходзіў у склад Палітбюро ЦК КПСС. Прыхільнікі Аліева паважліва называюць яго «Тата Гейдар».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**





*На здымках: напярэдадні выбараў на вуліцах Баку добра прадаваліся партрэты Гейдара Аліева з подпісам «Зззяючае сонца краіны» (кошт мастацкага твора — 100 долараў). А вось нацыянальныя сцягі падчас перадвыбарчых мітынгаў раздаваліся бясплатна.*

*Что пишут?*

# В Минске появился «Наемник»

**В системе Внутренних войск МВД Беларуси создается тщательно законспирированная структура с весьма специфическими задачами, пишет московская газета «Сегодня».**

Речь идет о преобразовании Отдела разведки и собственной безопасности (ОРБ) в отдельное подразделение с увеличением штата сотрудников и наделением их правом ведения агентурно-оперативной работы. Согласно действующему законодательству, подобной деятельностью могут заниматься только КГБ, МВД, отдельная служба активных мероприятий погранвойск, разведуправление МО и налоговая полиция. Таким образом, создаваемая служба является незаконной структурой.

По официальным данным, подразделение предназначено для борьбы с терроризмом. Однако, согласно информации из других источников, отдел будет заниматься отслеживанием контактов генералитета белорусской армии, высокопоставленных государственных чиновников (в том числе и из администрации президента) с политическими деятелями из оппозиции, а также осуществлять оперативную разработку политических противников А.Лукашенко, *«не исключая акций устрашения»*.

По сведениям корреспондента газеты, численный состав ОРБ составляет 200 офицеров. Все они имеют высшее образование и серьезную физическую подготовку. Практически все раньше служили в армейской разведке, десантных войсках или милицейском спецназе. Сотрудники подразделения находятся на нелегальном положении. Возглавляет новую структуру полковник по кличке «Наемник», известный своей крайней жестокостью. Имя его не разглашается. ОРБ состоит из аналитического, оперативного и оперативно-технического отделов.

*По материалам газеты «Сегодня»*

# Югославская симфония



читатели, звонили в американское посольство с признательностью за резолюцию в защиту свободы и демократии в Беларуси, которую принял Конгресс? Вряд ли — оно бы, наверное, и не худо, да всё же как-то не очень свойственно «рядовым гражданам». А югославы, получается, всё бросили и сотнями побежали к телефонам превозносить Лукашенко, да еще в таких патетических тонах. Или, может быть, наши дипломаты провели рекламную кампанию, развесили по всему Белграду плакаты с надписью «Позвоните в посольство Беларуси!» и телефонным номером?

Да и чисто по содержанию — тоже большая натяжка. Ну не первым Лукашенко высказался в поддержку Югославии, российское руководство сделало это раньше. И хотя Москва заявляла о своей позиции менее резко, без петушиных наскоков — для югославов, смею заверить, ее поддержка несоизмеримо важнее, нежели официального Минска. Ибо к России в мире все-таки прислушиваются, а белорусский истеблишмент и в приличные страны-то не пускают.

**ЗА НЕИМЕНИЕМ** лучшего, режим вовсю развивает отношения хотя бы с Югославией. Какая ни есть, а все-таки внешнеполитическая деятельность. Да еще в Европе.

И нехорошо поступает официальный Белград, вынуждая наш МИД ссылаться на «рядовых граждан». По сообщению БТ, свою благодарность Лукашенко высказал еще Югославский союз инвалидов. Но и с учетом этого все же получается как-то жидковато. Мог бы и министр выступить, а то и сам С.Милошевич, корона бы не слетела. Другое дело, что свидетельством прорыва международной изоляции отношения с Югославией все равно не станут, будь они самые-самые тесные. Это как и в обычной, неполитической жизни: люди, изолированные от общества в тюремной камере, волей-неволей общаются друг с другом, причем зачастую на специфическом языке. Вот и югославский лидер со своим белорусским собратом по изоляции от цивилизованного сообщества тоже находят общий язык — этакую антизападную «феню».

Лукашенко обвинил Клинтона, что тот с помощью натовского удара хочет *«решить какую-то сексуальную проблему»*. Но поведение нашего «батьки» в югославском вопросе тоже ведь можно объяснить во фрейдистском духе: с ним никто на Западе не хочет разговаривать, он лишен возможности даже просто посетить цивилизованную страну — вот и пытается вытеснить комплекс неполноценности, компенсировать свою ущербность грозными выпадами. И эти выпады не способны вызвать на Западе ничего, кроме смеха. Если, конечно, на них вообще обращают внимание.

Я не о том, что Лукашенко не может иметь свою позицию по событиям вокруг Югославии или не вправе ее высказывать. Любой человек вправе (а тем более в ранге государственного деятеля). Сам я убежден, что жители Косова имеют право на независимость от Югославии, коль скоро они того хотят. Равно как убежден и в том, что само *NATO* не должно принимать решение о начале боевых действий — это все равно, что дать возможность министерству обороны по своему почину объявлять войну. И лучше бы в любом случае обойтись без бомбежек. Но вас, Александр Григорьевич, об этом не спросят точно так же, как и меня. Это для Беларуси вы диктатор — а для Запада вы... чего там говорить.

Лукашенко вполне мог бы выступить с осуждением *NATO* (пускай себе и с характерной для него резкостью). Но угрожать-то зачем (и чем)? Зачем ставить себя в нелепое положение?

Во-первых, белорусское *«самое современное оружие»* вряд ли является таковым в сравнении с натовским. Во-вторых — может быть, Лукашенко решил с этим оружием прорываться через соседние страны с боем? По-другому ведь не пропустят. Да и вообще, достаточно только вдуматься, как в устах главы Беларуси звучит фраза *«Я бы предостерег и Францию, и Великобританию»* — и больше ничего не надо.

Сочетание *«психологический фактор моральной поддержки»* из мидовского пресс-релиза звучит довольно неуклюже — «масло масляное», по сути. Но, видимо, тут подсознательно прорвалось понимание мидовцами того факта, что ничего более ощутимого, чем нечто «психологическое» и «моральное», Беларусь предоставить Югославии не в состоянии.

Ну так и пыжиться не стоит. Конечно, если бы поведение, подобное лукашенковскому, могло действительно принести пользу — ради этого и впрямь можно бы, не заботясь о реноме, выставить себя на посмешище. Но ведь конструктива — ноль. Наоборот. Предположим на мгновение, что сербы переоценили возможности Лукашенко и воодушевились его воинственными речами. Что тогда будет? Они вообще перестанут брать в расчет позицию Запада — и война станет практически неминуемой. Куда больше проку было бы призвать Югославию выполнить в конце концов резолюцию ООН — проблема натовских ударов исчезла бы. Так это если думать о человеческих жизнях, а не о том, как православные славяне должны сообща противостоять Западу.

**ДЕЙСТВИЯ** белорусского режима в югославском вопросе не в последнюю очередь обусловлены принципом «Своя рубашка ближе к телу». «Палата представителей» приняла заявление, в котором подчеркивается: *«Урегулирование противостояния является внутренним делом самой Югославии»*. Еще бы — власти не прочь отнести эту формулу и к нашей стране, чтобы отношения с оппозицией, демократия, права человека считались сугубо внутренним делом. Иными словами, чтобы режим что хотел, то и творил — и никакого дела никому в мире до этого не было.

Насчет возможных натовских ударов по Югославии А.Лукашенко вопрошал: *«Кто будет следующим? Не окажемся ли мы?»* Заместитель председателя международной комиссии «палаты» С.Костян развил мысль своего патрона, причем в более категоричной форме, без всяких вопросительных знаков: он назвал действия *NATO «прелюдией к удару по Беларуси»*.

Натовские танки, разумеется, Беларуси не угрожают. Однако, помимо чисто пропагандистского момента, неясная тревога проявляется вот почему: белорусский режим хорошо осознает, что в цивилизованные рамки он никак не вписывается. Ведь вопрос о вторжении *NATO* в демократическую страну невозможно обсуждать даже теоретически. Да будет вам, Александр Григорьевич, не собирается *NATO* нас оккупировать, они там деньги считать умеют, а как нас завоюешь — это ж потом кормить надо.

А впрочем, едва ли Лукашенко всерьез боится натовской экспансии. На самом-то деле его выкрики адресованы не Западу. Да и, по большому счету, не югославам, — а гражданам гораздо более братского и крупного славянского государства. Об этом мы уже говорили.

НАВІНЫ 13 кастрычніка 1998 г., № 109 (501)

## З Расіі – у Французскі легіён

**Каля 40 чалавек, якія спрабавалі нелегальна перасячы беларуска-польскую мяжу, затрыманыя на працягу апошняга месяца брэсцкімі пагранічнікамі.**

Значнае павелічэнне патоку нелегалаў пагранічнікі звязваюць з эканамічным крызісам у Расіі. Цікава, што ўсё часцей сталі трапляцца парушальнікі мяжы, канчатковым пунктам следавання якіх з'яўляўся Французскі легіён. 14 жніўня пагранічнікі затрымалі першага такога парушальніка; з тае пары іх было затрымана больш за дзесяць. Усе яны заявілі, што прынялі рашэнне падацца ў Французскі легіён пасля таго, як прачыталі ў расійскіх СМІ шмат цікавай інфармацыі пра службу ў гэтым воінскім фарміраванні.

*БелаПАН*

## Прэмію Нобеля далі партугальцу

### *Упершыню Нобелеўскую літаратурную прэмію атрымаў партугальскі пісьменнік*

**Як паведаміла Шведская акадэмія, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1998 год стаў 75-гадовы партугальскі пісьменнік Жозэ Сарамаго.**



Нобелеўскі камітэт адзначыў, што ўзнагароджвае Жозэ Сарамаго «за багатую фантазію і іронію». А літаратурныя крытыкі прызнаюць, што на сённяшні дзень ён — самы выбітны партугальскі пісьменнік, «жывы класік». Асноўная тэма твораў Жозэ Сарамаго — гісторыя роднай Партугаліі. Ягоныя творы перакладаліся на 25 замежных моў.

Жозэ Сарамаго нарадзіўся ў 1922 годзе ў партугальскай правінцыі Рыбатэха. Свой першы раман «Краіна граху» ён напісаў у 1947 годзе, калі працаваў на металургічным заводзе. Але сапраўдная вядомасць прыйшла да пісьменніка толькі ў 1986 годзе, калі на свет з'явіўся ягоны раман «Каменны плыт». У рамане апісваецца, як Іберыйская паўвыспа (на якой знаходзяцца Іспанія і Партугалія) аддзяляецца ад Еўропы і самастойна рухаецца па Атлантычным акіяне. Дарэчы, творы Ж.Сарамаго высока цаніў знакаміты італьянскі рэжысёр Федэрыка Феліні.

Цяпер партугальскі пісьменнік жыве на Канарах, дзе і працягвае працу над літаратурнымі творамі. Уручэнне прэміі (951 тыс. долараў) адбудзецца 10 снежня.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Отпуск в стиле Чаушеску

Не всякий турист в состоянии потратить на свой отпуск 4–5 тысяч долларов. Но среди тех, для кого такая сумма — сущий пустяк, наверняка найдутся желающие пожить в королевских покоях. Или в президентских. Администрация государственного протокола Румынии пытается пополнить бюджет страны за счет наследства своего покойного диктатора.

Начнем с того, что сразу с самолета избранных счастливчиков доставят в столичный особняк Чаушеску на бульваре Весны. Или в его загородную резиденцию, находящуюся в бухарестском пригороде, на берегу озера Снагов — за такие деньги клиент может выбирать. И пользоваться всем, чем пользовался румынский генсек — антикварной мебелью, уникальным хрусталем, китайскими коврами, кинозалами. А заодно любоваться музейными гобеленами и полотнами старых мастеров, развешенных по всем резиденциям Чаушеску.

Кроме того, у отдыхающих будет шанс покататься на яхтах диктатора и поохотиться в лесничестве Скровиштя, где Чаушеску принимал обычно своих товарищей по Варшавскому Договору. Затем по программе следует поездка на одном из лимузинов Чаушеску — например, на «Бьюике», подаренном Никсоном, — в карпатскую резиденцию в Предяле. Или в один из личных санаториев — возможно, в Ковасне. Непременно надо посетить королевский замок Пелеш, в котором румынский лидер отдыхал зимой. Кормить будут трижды в день, и только по «меню Чаушеску»: салат с овечьей брынзой, пикантные рубленые колбаски, чорба из потрохов и красное вино «Сымбурешть».

Единственное, что будет недоступно даже самым богатым туристам, — воспользоваться коллекцией ружей Чаушеску, хранящейся в министерстве национальной обороны. Говорят, от нее мало что осталось.

**Ирина МАК**

## Озоновая дыра растет

**По наблюдениям американских ученых, площадь озоновой дыры над Антарктидой превосходит в этом году все ранее зарегистрированные показатели.**

Эксперты американского департамента торговли и НАСА полагают, что с 19 миллионов квадратных километров в прошлом году она выросла до 26 миллионов, что соответствует площади Северной Америки. Ученые наблюдают за динамикой процесса и надеются, что через 10 - 20 лет озоновая дыра начнет постепенно сокращаться и к 2050 году полностью затянется, однако климатические изменения могут внести поправки в эти расчеты.

**Валерия ШАБАЕВА**

## Мини-Европа на территории Брюсселя

### *В одном парке поместилась вся Западная Европа*

Не зря говорят, что бельгийцы — народ изобретательный. Наблюдая, как уже более 100 лет Эйфелева башня, как магнит, притягивает во Францию толпы туристов, бельгийцы задумались: а что, если нам построить свою Эйфелеву башню, только размером поменьше.

С этого все и началось. В 1987 году несколько историков-искусствоведов отобрали свыше 100 имеющих архитектурную ценность сооружений со всех стран Европейского союза для того, чтобы построить замечательный парк для детей и взрослых, с говорящим самим за себя названием: Мини-Европа. Попадая в такой парк, невольно ощущаешь себя Гулливером в сапогах-скороходах, потому что перед тобой, как на ладони, простилается Берлинская стена, Триумфальная арка, Пизанская башня… А от Дании до Швеции или, если хотите, до Италии, всего… несколько шагов ходьбы. И вовсе не обязательно быть скороходом, достаточно лишь четко следовать размеченным на земле указателям, чтобы без труда обойти всю «Европу», открывая для себя массу новых вещей.

Известно ли вам, например, что слово «Европа» в переводе с греческого языка означает «большие глаза»? И что в греческой мифологии так звали дочь финикийского царя Агенора, похищенную Зевсом?

Модели всех зданий идеально выполнены в масштабе 1:25. Таким образом, легко можно сравнить различные конструкции и технологические достижения; представить себе настоящие размеры, к примеру, Берлинской стены. Масштаб и обязательная для создателей четкость исполнения требовали точных чертежей и тысячи фотографий детальных изображений.

55 профессиональных мастерских из восьми стран Европейского союза были привлечены к работе над проектом Мини-Европы. Все макеты зданий сделаны с помощью новейшей техники, которая помогает воспроизвести точность конструкций. Модели выполнены из разных материалов, например, из дерева или картона. А устойчивая силиконовая форма заполняется эпоксидной смолой или полиэстером. После нескольких дней просушки макет освобождается от формы и доводится до окончательного результата. Процесс этот трудоемкий и долгий. Для того чтобы завершить, к примеру, собор Сантьяго де Компостела (оригинал которого находится в Испании), потребовалось 24.000 часов ручной работы, что равняется 13 годам труда одного человека. С помощью фотографий художники старались сохранить оригинальные цвета, подчеркивая тем самым художественный стиль здания. Эффекты, связанные с электричеством, разрабатывались специально для этого парка, с тем чтобы функционировать 3.000 часов в году при любых погодных условиях, будь то дождь, снег или ветер.

В этом году Мини-Европа зажигала свои огни каждую ночь с 17 июля по 17 августа. С сумерками наступает настоящее развлечение для детей и взрослых. Хотите услышать бой Биг Бэна или крик чаек в гавани? Или, может быть, насладиться романтической атмосферой Венеции с ее гондолами? А еще лучше увидеть своими глазами извержение Везувия, выпускающего клубы мертвенно-бледного дыма. Ночная страна завораживает как маленьких, так и взрослых гостей.

Парк рассчитан на 10.000 посетителей в день. Если вы хотите узнать больше о Европейском союзе, вспомнить свое последнее путешествие или, наоборот, отправиться куда-нибудь или, наконец, если вы просто любитель истории, стоит заглянуть именно сюда, где каждый найдет себе что-нибудь по вкусу.

**Маша МАРАНГОНИ**

## Даты і лёсы

### *13 кастрычніка*

**1783.** Кангрэс ЗША прысвоіў Тадэвушу Касцюшку званне брыгаднага генерала. За баявыя заслугі ён атрымаў таксама амерыканскае грамадзянства, найвышэйшы ў ЗША ордэн Цынцыната, пажыццёвую пенсію і зямельны надзел, а ў якасці асабістага падарунка ад прэзідэнта Вашынгтона — пару пісталетаў.

**1792.** Закладзены першы камень у падмурак рэзідэнцыі прэзідэнта ЗША, якая з 1809 года стала называцца «Белым домам». Першымі жыхарамі дома ў 1800 годзе былі прэзідэнт Джон Адамс і ягоная жонка Абігайль.

**1888.** Нарадзіўся выбітны беларускі мастак Язэп Драздовіч. У нашай культуры Драздовічу належыць тое ж месца, што ў літоўскай — М.Чурлёнісу, а ў рускай — М.Рэрыху.

**1921.** Нарадзіўся Іво Ліві, які пад іменем Іва Мантана стаў папулярным французскім спеваком і кінаакцёрам ***(на здымку)***. Памёр у 1991 г.

**1925.** Нарадзілася Маргарэт Хілда Тэтчэр — «жалезная лэдзі», якая стала першай жанчынай-прэм'ер-міністрам у Еўропе і знаходзілася на чале ўрада Вялікабрытаніі з 1979 па 1990 г.

**1928.** Урад БССР прыняў пастанову аб пераўтварэнні Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) у Беларускую Акадэмію навук. Напачатку яна мела 6 навукова-даследчых інстытутаў, цяпер — амаль чатыры дзесяткі.

**1960.** З канвеера Беларускага аўтамабільнага завода ў Жодзіне сышоў першы 40-тонны самазвал.

### *14 кастрычніка*

***«Ад Пакрова — дзеўка гатова»: у вёсках пачынаўся сезон вяселляў. Каб ўраганы не зносілі стрэхаў, гаспадары закідвалі на іх пакроўскія пірагі. Дзяцей перад Пакровам аблівалі вадой праз рэшата на ганку хаты і верылі, што гэта засцеражэ іх ад зімовай прастуды.***

**1884.** Джордж Істман атрымаў патэнт на фатаплёнку.

**1903.** У Слуцку нарадзіўся савецкі канструктар ракетных рухавікоў Сямён Косберг. Ягоным імем названыя вуліца ў родным горадзе і кратэр на Месяцы.

**1926.** У Лондане выйшла кніга Алана Мілна «Віні-Пух».

**1933.** Германія выйшла з Лігі Нацыяў і адклікала сваю дэлегацыю з міжнароднай канферэнцыі па раззбраенні.

**1936.** Першая група валанцёраў у складзе 500 чалавек прыбыла ў іспанскі горад Альбасэце для падтрымкі рэспубліканскага ўрада ў барацьбе з фашыстамі. Сфарміраваныя з валанцёраў інтэрбрыгады сталі асноўнай баявых сілаў Іспанскай рэспублікі.

**1953.** Мінскі трактарны завод выпусціў свой першы калёсны трактар «Беларусь».

**1964.** Мікіта Хрушчоў адхілены ад усіх пасадаў. На чале КПСС стаў Леанід Брэжнеў.

**1968.** Амерыканцы Джон Грунер і Ніл Ўотсан нырнулі з аўтаномнымі дыхальнымі апаратамі каля вострава Вялікая Багама на рэкордную глыбіню 133 м.

**1973.** Пачалася чарговая араба-ізраільская вайна, т.зв. вайна Суднага дня ( ў гэты дзень адзначалася галоўнае свята габрэйскага рэлігійнага календара Ём-Кіпур (Судны дзень)

**1996.** У Беларусі ўпершыню быў адзначаны Дзень маці.

### *15 кастрычніка*

**70 г. да нашай эры.** Нарадзіўся вялікі рымскі паэт Вяргілій, аўтар паэмы «Энеіда», у якой апавядаецца пра заснаванне Рыма ўцекачамі з разбуранай грэкамі Троі.

**1581.** У Парыжы на замову каралевы Кацярыны Медычы быў пастаўлены першы балет. Спектакль *Le Ballet comique de la reine* ў палацы мэрыі доўжыўся 5 гадзінаў і сабраў 10 тысяч гледачоў.

**1608.** Нарадзіўся італьянскі матэматык Эванджэліста Тарычэлі, які ў 1643 г. вынайшаў барометр.

**1666.** Англійскі кароль Карл II упершыню апрануў і ўвёў у моду камізэльку.

**1833.** Памёр Міхал-Клеафас Агінскі, аўтар праекта аўтаноміі Вялікага герцагства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі, а таксама славутага паланеза «Развітанне з Радзімай».

**1844.** Нарадзіўся нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ ***(на здымку)***.

**1920.** Польскія войскі парушылі Рыжскае перамір'е і захапілі Мінск, але ўжо праз дзень былі вымушаныя адступіць на старыя пазіцыі.

**1925.** ЦК КП(б)Б прыняў пастанову пра зносіны з беларускім рухам за мяжой. Ад камуністаў патрабавалася «працягваць работу па разлажэнні і драбленні беларускай эміграцыі, ні ў якім разе не дапусціць стварэння якіх бы то ні было беларускіх аб'яднанняў», а ў перспектыве — узначаліць нацыянальны рух за мяжой і ператварыць яго ў рэвалюцыйны.

**1946.** Былы намеснік Гітлера і заснавальнік *Luftwaffe* Герман Герынг прыняў атруту і памёр за некалькі гадзінаў перад тым, як яго павінны былі павесіць па прысуду трыбунала ў Нюрнбергу.

**1990.** Нобелеўская прэмія міру была прысуджаная Міхаілу Гарбачову.

*Падрыхтаваў*

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1247 Нумар падпісаны ў друк 12/10/98 (15:30) Наклад — 18 270.